С. Хізма

# Каля "Сьвятароў" і "Цемняроў"

Памфлеты



Выданьне выд. секцыі Ордену Двупагоні
Чужына : : : : : : : : : : : : : : : : 1950

# Ад Выдавецтва

На пачатку 1944 г., у беларускай прэсе /баранавіцкая газэта "Пагоня", бэрлінская "Раніца", беластоцкая "Новая Дарога"/ прайшла характэрная й даволі бурная дыскусія, у якой упяршыню вылезьлі наўзьверх асноўныя адзнакі тае зьявы, якая пасьля, за нейкіх пару год сталася ведамай пад назовым "зарубежніцтва".

Каб пазнаёміць з гэтаю зьявай бліжэй нашую моладзь і паказаць ёй, што гэта зусім ня новая справа і не "барацьба за ўладу", як некаторыя спрабуюць цяпер "тлумачыць", мы перадрукоўваем тут з бэрлінскае газэты "Раніца" два памфлеты, у якіх і гэтая зьява і некаторыя іншыя спадарожныя ёй упяршыню знайшлі сабе адпор. Лічым гэта нашым абавязкам, бо зарубежніцтва, на чале з авантурыстым і шахраем панам Астроўскім ня хоча бачым вачавіднасьці шкоды сваім выступам і для агульнае справы: аднаўленьня незалежнасьці беларускае дзяржавы.

Спадзяемся, што аўтар іхны, дзе-б ён цяпер ня быў, выбачыць нам гэты перадрук, зроблены безь ягонае адумысловае згоды, але на нашую думку вельмі патрэбны сяньня, калі сэнс "зарубежніцтва" усё больш і больш высьняецца.

Выдавецтва.

# КРЫХУ КАЛЯ "СЬВЯТАРОЎ" І "ЦЕМНЯРОЎ"

/Зацемкі ўцьвеленага філёлёга/

"Калі не сьвятар, дык ня ўбірайся ў рызы" - ёсьць гэткая прыказка.

Што, няма, кажаце. Дык што вы кажаце. Ёсьць, кажаце, ды ня зусім гэтак. Самі ведаем, што ня зусім гэтак. Там слова, за "сьвятара" куды карацейшае. Проста такое трохлітарнае слова, што як выгукнуць адным дыхам - сьвечкі гасіць.

Ды ну іх зусім, гэтыя трохлітарныя, што сьвечкі гасіць. Што праўда, дык вельмі-ж багатыя на іх некаторыя мовы "вялікай усходнеславянскай сям'і народаў". Можа памятаеце, над адным такім Дастаеўскі ў сваім "Дзёньніку" як разважаў... Дык гэным трохлітарным адным - вунь колькі розных адценьняў выказаць маглі.

Бяда адно, што не заўсёды гэта ўголас выказаць выпадае. Яшчэ пачуе хто ды на сябе возьме, пакрыўдзіцца. А тут якраз - прызнаёмся вам, як на споведзі - так-жа выказацца хачацца... Калі ня трохлітарна, дык хоць-бы трох-слоўна. Ёсьць-жа гэткія магічныя формулы ў гэных багатых мовах...

Ды ведаем, ведаем самі: - лаяцца - грэх. Вось мы і не сказалі, а толькі ўздумалі - і тое ўжо грэх, усёроўна - грэх...

Ох, грахі, грахі...

"Айцец Апанас, памаліся за нас."



Што. Кажаце і гэткай прыказкі няма. Дык - асьвяцэцеся, - гэта-ж ніякая і ня прыказка... А калі чаго і няма, дык можа затое будзе. І напэўна нават некалі будзе. Ці-ж мала яшчэ на сьвеце людзей, што самі ў прыказкі просяцца. Проста із скуры вылузваюцца, каб адно, каза той, "притчей во языцех" стацца. Можа-ж і які Апанас сярод іх знайсьціся...

- Знайшоўся-ж вунь некалі нейкі Заблоцкі, што із сваім мылам навек - і на ўвесь сьвет у прыказку сеў. А другі - Кастрыцкі зваўся - дык той праз бот сябе ўвекапомніў. Чулі, кажуць:

"Разумны, як бот Кастрыцкага".

Што, ізноў, кажаце, ня гэтак. Крышку наадварот, кажаце. Бяда нам із вамі. Дык-жа ведаем, і гэта ведаем, што наадварот, але-ж страх ізноў, каб ізноў як у грэх... Гэта вы ўсё нас у грэх уводзіце.

Ох, грахі, грахі... А найбольшы наш грэх - ізноў-жа, толькі як вам, і зусім як на споведзі: слова "сьвятар" нам вельмі падабаецца...

Сьветлае гэткае і сьвятое слова, а хіба-ж сьвятое - гэта ня сьветлае. І ўдоўжкі - якраз у меру: не задаўгое, як тое, што яшчэ гэтак пасярэдзіне на "шч" сычыць і сіпіць, і не закароткае, як гэнае, што на тры літаркі...

Ну, але гэта толькі нам. А каму як што. Іншыя-ж кажуць - грэх.

Дык ці даруюцца нам цяжкія нашыя грахі.

x x x

Гэта ўсё - жартачкі, прадмова была. Адразу не заўсёды й разабраць, што да чаго.

А цяпер пагаворыма паважна, "усур"-

ёз". Бо справа і запраўды вельмі паважная, куды паважнейшая, як можа здацца на першы пагляд.

Баранавіцкая газэта "Пагоня" ў сваім №10 ад 5.2 сёлета зьмясьціла ліст у рэдакцыю "епіскапа Афанасія, епіскапа Віцебскага і Полацкага".

Л і с т  у  р э д а к ц ы ю

Паважаны Спадар Рэдактар.

Ветліва прашу надрукаваць на балонках Вашае газэты наступнае:

Апошнім часам у беларускай прэсе і беларускіх установах сталі называць праваслаўных сьвяшчэньнікаў сьвятарамі. З такою новаю тэрміналёгіяй у адносінах да нашага духавенства ня можна пагадзіцца на той падставе, што слова "сьвятар" не адказвае свайму назначэньню. "Сьвятар" паходзіць ад слова "сьвяціць", "даваць сьвятло". Той, хто ідзе з фанаром і сьвеціць называецца хіба: "сьвятар". - Але слова "сьвятар" не адказвае свайму назначэньню. - Але слова "сьвяшчэньнік" паходзіць ад грэцкага слова "іерос" - "сьвяшчэнны", "пасьвячаны" напрыклад "пасьвячаны Богу". Як відаць з гэтага, словы "сьвятар" і "сьвяшчэньнік" значна між сабою розьняцца. Такім чынам слова "сьвятар" не надаецца для называньня праваслаўных сьвяшчэньнікаў. Трэба яго выкінуць з беларускага лексыкона, тым больш, што яно выдумана Ластоўскім і ня мае ніякага пацьверджаньня ў нашай старадаўнай літаратуры. Слова "сьвяшчэньнік" мусіць астацца ў нашай мове яшчэ і таму, што яно захавалася ўва ўсіх усходнеславянскіх мовах: сэрбскай, баўгарскай, расейскай, украінскай. Беларусы, якія належаць да вялікай сям'і усходне-славянскіх народаў, таксама ня могуць ад гэтага слова адрачыся.

Епіскап Афанасій
Епіскап Віцебскі і Полацкі

Калі чытаеш чалавек гэты ліст, дык адразу, праўда, ня ведаеш, із чаго тут больш дзіву давацца: ці з філёлёгічнае глыбіні, ці з арыгінальнасьці ў знаках прыпынку, ці з тае грамадзкае адвагі, з якою можна было выткнуцца з усім гэтым на сьвет Божы, перад людзьмі, шануючы свой, як-ні-як высокі сан. Але як дойдзеш да гэнага "тым больш" і Ластоўскага, вялікага запраўды сьвятара крывічанскае нацыянальнае справы і мучаніка бальшавікоў нашага векапомнага Вацлава Ластоўскага - цямнее ў вачу... Як-бы запраўды "благаславіў" цябе гэным "фанаром"...

І чуецца з тае цэмры выразнае рэха гармідару калішніх Пщолкаў, Кавалюкоў, Саланевічаў і Евлогіяў таксама:

- Гэта яны, Ластоўскія і Лёсікі, выдумалі. "Мову" выдумалі, "рух" выдумалі, "справу" выдумалі. Цюга іх, у-лю-лю

- Так, чуеш чалавек, як на твары тваім гарыць аплявуха. Здаравенная аплявуха, дарма што з духоўнае рукі. Былі-ж і сярод іх "заушателі", сама гісторыя царквы сьветчыць.

Дык што-ж, па-хрысьціянску - "падставіць левую". Ці - размахнуцца і, як той сьвяты Мікола Мірлікійскі...

Ох, ізноў - грахі, грахі...

x x x

Баранавіцкая "Пагоня", трэба аддаць ей належнае, стала на варце нацыянальных інтарэсаў...

Толькі гэтак далікатненька, сьціпленька, зусім пабеларуску...

- "Справу слова "сьвятар", каторае між іншага, ужывае і наша газэта, пакі-

даем разгляду нашых моваведаў, і ў меру таго, як яны адгукнуцца, падамо іх думку да ведама. Зразумела й ухвальна; "Пагоня" ня хоча ўбірацца ў рызы, хоць пададзеныя ёю довады, як пабачым ніжэй, могуць задавольніць найпатрабавальнейшага моваведа, і таму мала чаго застаецца да іх дадаць ці паправіць. Дык ці на месцы падобная сьціпласьць, калі з працілежнага боку яе і заваду няма. Калі нам безапэляцыйна, з прэтэнзыяй на аўтарытэт - можа ад надзеі на ўсемагутную і ўсеабсяжную моц "сану" - адразу адсякаецца: "трэба яго выкінуць з беларускага лексыкону". Чулі. "Трэба", "выкінуць" і - "амін", ці мо нат і "анафема", накладзеная ня толькі там, дзе яна магла-б быць праўнай і адразу як-бы прымяркоўвалася /"слова "сьвятар" не надаецца для называньня праваслаўных сьвяшчэньнікаў"/, але і на ўвесь непадведамны і непадуладны зусім абсяг "беларускага лексікона" /дарэчы, у дужках: паводле "выдумшчыкаў" Тарашкевіча і Лёсіка трэ было-б "лексыкону". А гэтак - зусім паводле бальшавіцкае "рэформы правапісу" 1933 г. напісана/.

Дык вось як трэба - "коль рубить, так уж с плеча". А мы тут далікатненька тупаем на пальчыках ды яшчэ "із свайго боку мусім аднак зазначыць, што довады, прыведзеныя паважаным Аўтарам ліста супраць слова "сьвятар" не зьяўляюцца вельмі пераконваючымі". Гэткая беларуская мяккасьць і лагоднасьць, за прабачэньнем - нават сьлімазарнасьць і разьлезласьць, такое, проста як на веніку, шанаваньне з вялікае літары Аўтараў, хоць-бы яны й выразна цягнулі ў варожы бок ды наступалі на сама балючыя мазалі - можа выклікаць проста-ткі



абурэньне. Тым больш, што ў далейшым ад гэных, даруй Божа, "довадаў" - і каменя на камені не пакідаецца. І яшчэ тым больш, што самі "довады" якраз вельмі пераканальныя, толькі ў зусім другі бок... Дык навошта-ж цацкацца і тут, навошта гэтыя рэвэрансавыя "не зьяўляюцца вельмі", калі ўсё дае поўныя падставы адразу-ж станоўка адпяяць:-

-Калі сьвятар - трымайся лепш сваіх падрызьнікаў.

Зрэшты, калі для "Пагоні", пры ўсёй баявосьці ейнага нозову, гэткі тон быў бы забаявы, можна было-б падацца і больш рыцарскім шляхам, як у тых радкох аднайменнага з ёй Багдановічавага вершу:

Беце ў сэрцы іх, беце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць.

Тады ня зыходзячы з так мілага ці звыклага вонкавага далікацтва, але напорна й станоўка трэ было-б узяцца за "прапаганду", за цярплівую пэдагогіку, можа, паказаць "Аўтару", як добра знаць адразу, куды ён гне, прамовіць да ягонага нацыянальнага сумленьня, да таго "сэрца", калі яно яшчэ ня зусім у чужыншчыне закажанела, адным словам "обратить" яго ў адзіна - праваслаўную для усіх нас, агульнабеларускую веру.

Праўда, прызнаёмся шчыра; мы-б не ўзялі-б на сябе такое місіі. Мы трымаемся іншага паэты:

Будзіць усіх і заклікаць - ці варта:
Няма з паловы й ня было карысьці..

Тым больш, нешта ня чуваць ужо нам тут ніякага сэрца, адно "седце"-"с сердцем и с перцем". І не "мячамі", а доўбняю тут хіба біць, біць, як кажуць, біць ды доўбню тую... ўставіць.

І аднак, паўтараем яшчэ раз: "Пагоня"

усё-ж у васноўным выканала свой нацыянальны абавязак, даўшы вычарпальныя бадай адказы на ўсе блізу пункты "Ліста". А нашыя заўвагі паважаныя рэдактары хай прыймуць, як сяброўскі проста выгавор свайго, праўда, крыху ўцьвеленага чалавека.

Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

x x x

А цяпер возьмемся каля самае філёлёгіі. Раскрыем крыху:- мы якраз із гэных моваведаў, да якіх зварачваецца "Пагоня". Так што да вашых паслугаў.

Таму, што "Пагоня" сама першая паставілася да нашых агульных паслугаў і ўжо зрабіла ладную частку работы, дык мы і пачнем, адыходзячы ад ейных аргумэнтаў.

АРГУМЭНТ I. "Перадусім слова "сьвятар" ужываецца заўсёна "Пагоняй", як і іншымі беларускімі газэтамі, не замест слова "сьвяшчэньнік", але побач яго і ў значаньні наагул асобы духоўнага стану, і незалежна ад веравызнаньня. Таму да слова "сьвятар" часта дадаюць прыметнік: "каталіцкі" або "праваслаўны" ігд. У расейскай мове наагул адпаведнага гэтаму слову няма, а ў польскай слова, па сэнсу блізкае, будзе "kapłan".

Гэта зусім так. Можна толькі дакінуць што і ў расейцаў ёсьць адпаведнае польскаму "kapłan" слова. Гэта - "жрец". Толькі сувязь яго з такім "смачным" дзеясловам, як "жрать", і сяньня нагэтулькі адчувальная, што ўжываньне яго замацавалася там выключна ў дачыненьні да г.зв. "паганскіх" сьвятароў. Што-ж, добра захацеўшы, дык і гэты "жрец" можа быць мілейшым і прыгажэйшым за "выдуманага" няшчаснага нашага "сьвятара"...



...Ах, айцец Апанас, айцец Апанас - ужо шкада нам вас...

АРГУМЭНТ 2. "Сьвяшчэньнік" і "сьвятар" утвораныя з таго самага караня-"сьвет". Лінгвістычна гэта абсалютна правільна, дый наагул так ясна, проста, як кажуць, для "няўзброенага вока", што можна было-б і не рабіць ніякіх філёлёгічных выкладак. Усё-ж пададзём іх на ўсякі выпадак.

Старославянскія "свѣт" і "свят", ведама кажнаму, аднакарэнныя. Сэмантычнае адценьне, г.зн. адценьне ў значаньні ў сэнсе, грунтуецца тут на адней і тэй самай базе - і сяньня яшчэ кажны, хто толькі можа адчуваць слова, лёгка адчувае тую сэмантычную, сэнсавую роднасьць між "сьвяты" і "сьветлы", "сьвятасьць" і "сьвятло". З гукавога боку гэта знаходзіць выражэньне ў вагульнасьці зычнага касьцяка словаў /"свт"/ пры рознасьці галоснага элемэнту ў іх /устаноўлена, як фанэтычная законамернасьць у пэўных выпадках, старославянскае чарадаваньне гукаў ѣ ь я/. У беларускай мове сюды далучаецца яшчэ пазьнейшае гукавое чарадаваньне г.зв. "яканьня", г.зн. пераходу ненаціскнога "е" /як спачатнага, так і з старога "ѣ"/ у "я". Дзякуючы гэтаму апошняму, тут адбылося яшчэ большае гукавое зьбліжэньне і цясьнейшае сэмантычнае спластаваньне. Таму дзеяслоў "сьвяціць" пакрывае ў нас сяньня ўжо два старославянскія дзеясловы - "свѣтити" і "святити" і, такім парадкам, аднача сна значыць і "даваць сьвятло", "асьвятляць" і "рабіць сьвятым", "асьвячаць" ці "пасьвячаць". Дык і ня дзіва, што й такое выводнае ад яго, як "сьвятар", можа мець гэтыя-ж абодва значаньні і абазначаць

і "таго, хто ідзе з фанаром /Божа мой, хоць-бы ўжо з ліхтаром ішоў-такі-ж ужо "русский дух" і "Русью пахнет", проста чадзіць ад гэтага "фонаря"/ і сьвеціць і таго, хто "сьвяціць" ці сам "пасьвячаны Богу". І тут няма ніякае "значнае розьніцы" з сэматычнага боку, а тое-ж самае сэнсавае адзінства. Хіба той, хто "пасьвячаны Богу", не павінен таксама "ісьці і сьвяціць", асьвятляць людзям шлях да гэтага Бога, прасьвятляць іх ягоным сьвятлом. Толькі самыя заструпелыя мазгі могуць дагледзець тут "значную розьніцу", ня бачачы простае, беспасярэднае роднасьці. Толькі тыя, каму словамі паэты, "страшна сонца на праднвесьні, мілей ім холад з цемнатой", могуць паўставаць супраць збліжэньня "сьвятога" і "сьветлага".

Ува ўсякім разе, добра відаць, што чаго-чаго, а цемнаты з-пад самае, што называецца, цёмнае зоркі, абскурантцтва і невуцтва ў тэй дамарослай "сьвяшчэннай" філёлегіі, у ейных "ня вельмі пераконваючых довадах" - ня купіць, на дзённым сьвятле гэта б"е ў вочы кажнаму...

...Вось, айцец Апанас, айцец Апанас, аж няёмка нам за вас.

АРГУМЕНТ 3. "Калі слова "сьвятар" не спатыкаецца ў нашай старадаўнай літаратуры, дык і слова "сьвяшчэньнік" у старадаўных памятках няма, аж да XVII ст., г.зн. да часу маскоўскіх уплываў - на праваслаўнае духавенства ў Беларусі."

І тут не пашкодзіць маленькі філёлегічны камэнтар. Ня маючы нічога супраць ужываньня таго "сьвяшчэньніка" ў праваслаўным царкоўным абыходку, пакуль увесь гэты абыходак наагул грунтуецца на т.зв. царкоўна-славянскай /новай/ мове, нельга ня сьцьвердзіць, што беларускай моўнай стыхіі гэтае слова зусім чужое. Пячаткаю гэнае чужыншчыны зьяўляецца найбольш гэнае "шч". Параўнальная моваведа г.зв. славянскіх моваў у якасьці аднае з асноўных сваіх законамернасьцяў даўно і непарушна сьцьвердзіла лёс г.зв. праславянскае групы у розных славянскіх мовах. І добра ведама, што калі скажам, у мове баўгарскай гэтае злучэньне дало "шт" /і ў старабаўгарскай - г.зв. старацаркоўна-славянскай прыкладам "свьшта", кірылічная літара "щ", як ведама толькі лігатура шт, якая пазьней на славянскім усходзе пачала чытацца як "шч", і цяпер у цэрквах чытаюць "сьвешча"/, а ў польскай, прыкл., "ц" /Świeca/, дык у беларускай, як і ў некаторых суседніх мовах, тут атрымалася толькі "ч" /"сьвяча"/. І таму пабеларуску мог-бы быць хіба "сьвячэньнік", а не "сьвяшчэньнік", толькі што гэтага тымчасам нешта ня чуваць... А што расейцы узялі сабе царкоўна-славянскага "сьвяшченника", як і багата іншае царкоўна-славяншчыны нават у сьвецкім абыходку - гэта іхная прыватная справа і нам, беларусам, ніякі, як кажуць яны, "не указ".

...Так, айцец Апанас, айцец Апанас, нам зусім "не указ".

АРГУМЕНТ 4. "Да тае пары /г.зн. да XVII ст./ захавалася і нават у народнай мове дагэтуль вылучна слова "поп" з паходнымі "паповіч", "пападзьдзя", "пападзянкі" ігд., каторае падчас упадку духавенства звульгарызавалася."

Пра гэтае слова "поп" /дарэчы грэцкага паходжаньня/ зусім добра сказана, дадаваць нічога не застаецца. Хіба што ў тыя прыказкі нашыя цяпер сьмела падставіць яго можна, і ў старую - "калі ня

поп, дык ня ўбірайся ў рызы", і ў нашую новую, дальбог-жа, пад шмат якімі поглядамі так актуальную: "Калі поп, дык трымайся лепш сваіх падрызьнікаў"...

...Штож, айцец Апанас, айцец Апанас, - так выходзіць і для вас.

АРГУМЭНТ 5. "Зусім ужо незразумелы для беларусаў будзе погляд, што слова "сьвятар" трэба выкінуць з беларускага лексыкону, ТЫМ БОЛЬШ, ШТО ЯНО ВЫДУМАНА ЛАСТОЎСКІМ". Перадусім, няма ніякіх асноў меркаваць, што яно "выдумана" Ластоўскім, а ня ўзята з народнае мовы. Другое: нават калі-б яно і было выдумана гэтак вялікім аўтарытэтам, як Ластоўскі, дык-ці-ж значыць гэта, што яго трэба адкінуць.

-Вось гэта і заслаба, і заразьлезла...

Хіба можна назваць толькі "зусім ужо незразумелым" гэты нахабны выпад супраць аднаго з найзаслужонейшых сыноў Беларусі, гэты грубы выбрык з-пад старых падрызьнікаў, які мог-бы здацца прынамсі дзікім, каб ня быў якраз так зразумелым і ясным у сваей запраўднай скіраванасьці, каб якраз тут ня вылазіла-б так выразна тое шыла з мяшка. Пэўна-ж, цяпер, ды яшчэ будучы пастырам як-ні-як беларускае царквы, ужо ня выпадае выступаць агулам, "оптом", супраць усяе беларускае і-мовы й справы, як выдуманае Ластоўскім ці Лёсікам з нейчае - раней казалі польскае, а пазьней - і нямецкае - "інтрыгі". Мінуліся шчасьлівыя часы "Крестьяніна" і "Белорусской жизни", часы ўсіх тых Пшчолкаў, Кавалюкоў, Саланевічаў і Евлогіяў. Шыла давялосся схаваць глыбакаў" мяшок і адтуль ужо папорваць сяды-тады сышіха і ўраздроб супраць кажнага паасобнага слоўца, як-быццам-бы "выдуманага" ты-



між непавіднымі "інтрыгамі". Што ні казаць, змаганьне з беларушчынай непамерна абцяжылася, але яно вядзецца, хоць і пад лёзунгам: "Не-оптом, так в розницу". Гэткую, і толькі гэткую палітычную ацэнку можна і трэ было даць тут. І тым больш /ах, гэтае залатое "тым больш" - гэты пазалочаны кончык востра-абточанага шыльца./ непатрэбным і недарэчным апраўданьнем, нават як-бы выбачэньнем гучыць тут гэтае "перадусім". Не прававацца, пакладаючыся на асновы, а выкрываць да асноваў спрытна-задуманую, ды не заўсёды зграбна выконваную ворагаву тактыку, выкрываць, як-гаспадаром палажэньня, а не як нейкім падсудным, сьмела ў вочы й да канца, ставячы ўсе кропкі над "і" /а нават кропачкі гэтыя, бачылі мы адным вокам, тут якраз, як таму некаму ладан.../ - зусім законная і нават канечна - патрэбная рэакцыя кажнага сьвядомага і шчырага беларуса ў падобным выпадку. А ну, вытрасьце з вашага мяшка, дабрадзею, што яшчэ там у вас такое калючае ёсьць. І ня думайце хавацца за тое, што ў публічных шырокавяшчальных сваіх дэклярацыях вы заўсёды за беларускую мову, гэта ўжо даўно ведамы й выкрыты спосаб усіх чмутоў прызнаваць і нават хваліць на словах, а сабатаваць, шкодзіць, устаўляць "сьпіцы ў калясьніцы" на справе.

...Не, айцец Апанас, айцец Апанас, - не ачмуціце вы нас.

АРГУМЭНТ 6. "Няма гэткае мовы, у каторай ня было-б выдуманых слоў". Возьмем, напрыклад, расейскі дзеяслоў "затушеваться". Выдумаў яго Дастаеўскі, як сам падае ў сваіх "Зацемках пісьмень-

нука". Аднак яно з часам зпапулярызавалася гэтак, што сяньня ўжываецца ўжо ня толькі ў расейскай літаратуры, але і ў расейскай народнай мове, і нікому нават у галаву ня прыйшло вычыркваць яго з расейскага лексыкону".

Тут толькі патрэбныя маленькія ўдакладненьні. Не "затушеваться", а "стушеваться", і не ў "Зацемках пісьменьніка", а ў "Дзёньніку пісьменьніка" ў Дастаеўскага можна знайсьці пра гэтае слова. Ды ці адзін Дастаеўскі тут аргументам. Ці-ж ня выдумаў іншы Карамзін, гэты ў пэўнай меры расейскі Ластоўскі, і "предмет" і "промышленность", дый наверх, слухайце, слухайце, які скандал, — яшчэ паводля польскага Ягм.., пеўна-ж і "каталіцкага"/ ды такама "выдуманага" першаўзору. Дый ці толькі гэта, дый ці толькі ён адзін. Толькі той цямняк-абскурант які паняцьця ня мае пра ролю неалягізмаў у вытварэньні, скажам, нямецкае літаратурнае мовы, ці чэскае, або нават, у ладнай меры і тае самае расейскае, толькі гэты небарака мож пырокаць нешта на "выдумкі" і "выдумшчыкаў" — калі толькі ня робіць гэтага зусім сьведама, для выпаду і супраць беларускае мовы, і супраць усяе беларушчыны наагул.

...Ужо-ж, айцец Апанас, айцец Апанас — прабачайце вы нас.

АРГУМЕНТ 7. "Слова "сьвятар", калі і ўтворанае, або "выдуманае" Ластоўскім, што яшчэ вымагае канкрэтных доказаў, дык згодна з духам беларускае мовы, мае свае адпаведнікі, як "гаспадар", "валадар", "гусьляр", "змагар", "бондар" ітд., прычым суфікс "ар" надае карэню характар здольнасьці дзеяньня-прафэсіі. Паводля гэтага правіла творыцца і новыя словы, як "гадзіньнікар", "рэдактар",



"дырэктар", "лекар", "прафэсар" і шмат, шмат іншых.

Лінгвістычную бездакорнасьць гэтага аргумэнту псуе толькі апошні сказ. "Лекар" зусім ня новае слова, а "рэдактар, дырэктар, прафэсар" і зусім словы чужаземныя, у якіх толькі чужыя нашай мове суфіксы асвоеныя на аснове таго самага свойго суфікса-прафэсіі "ар", аб чым спэцыяльна запісаў Тарашкевіч у сваёй граматыцы, у парагpафе пра правапіс чужаземных словаў. Ну, але гэтую маленькую недакладнасьць, як і тыя "затушеваться" і "Зацемкі пісьменьніка", зусім можна дараваць "Пагоні". Яна-ж адразу заявіла, "што ня зьбіраецца "ўбірацца ў рызы"...

Затое бадай ці можна дараваць проста нават пісьменнаму чалавеку тое, чаго недагледзіла "Пагоня" ў-лісьце мал., зрэшты, вышэйшым у сваім навуковым узроўні" за славуты той, што пісаўся калісь турэцкаму султану. Ягоны "Аўтар" пад самы канец, відаць, як найбольшыя ўкаванкі свой аргумэнт, кажучы тым высокім "сьвяшчэнным штылем" "изрекает" або "глаголет": "Слова сьвяшчэньнік" мусіць астацца ў нашай мове яшчэ й таму, што яно захавалася ЎВА ЎСІХ УСХОДНЯСЛАВЯНСКІХ МОВАХ: СЭРБСКАЙ, БАЎГАРСКАЙ, расейскай, украінскай. Беларусы, які я належаць да вялікае сям'і ўсходне-славянскіх народаў, таксама ня могуць ад гэтага адрачыся". Гэта мы падчыркнулі, бо нас гэтае апошняе навуковае адкрыцьцё як перуном уразіла. Дагэтуль кожны бадай вучань ведаў, што сэрбская і баўгарская мовы залічаюцца часам да г.зв. паўдзённа-славянскіх моваў, але што яны ўжо аж у ўсходне-славянскіх апынуліся, — гэта кажнаму будзе поўным "откровением".

Хоць, зрэшты, гэта зусім можна зразумець, выходзячы із старога "клясычнага": "Славянские ручьи сольются в русском море"...

А як падабаецца самім гэтая "вялікая сям'я ўсходне-славянскіх народаў." Пэўна-ж, не спецыялісты-моваведы можа і ня ведаць, што ў сяньняшняй навуцы аб мове ўся славутая тэорыя "ўсходне-славянскага" /раней казалі прасьцей: "общерусского"/ адзінства даўно паляцела ў друзачкі і выкрытая канчальна як палітычная толькі махінацыя расейскага вялікадзяржаўніцтва. Аднак, і найсьмялейшыя ейныя адэпты дасюль не здаўмяваліся "воссоединить" у гэтае адзінства славянаў паўдзённых — сэрбаў і баўгараў. Але гэта — як-ні-як, а ў навуцы. На практыцы-ж толькі палітычны недарэка можа сяньня ня ведаць аб старых-царскіх і сучасных сталінскіх прэтэнзіях на гэтых "братушек-славян" ды ня чуць нічога аб новым маскоўскім "панславізьме", аб славутых штогодных "усеславянскіх мітынгах" у Маскве. І ці можна паверыць, каб асоба такога сану ня мела аб тым, што "глаголят" на гэных мітынгах розныя бальшавіцкія патрыярхі Сергіі, Міколаі Кіеўскія і Галіцкія, шпаргалкі якіх, дзе "русская православная церковь благословляет вас на святую борьбу, дорогие братья-славяне" ў падпольным выданьні аж "Барановического Обкома КП/б/Б" /іс./ растыкваюцца сталінскімі ганчакамі і духоўным, і "пасьцьве" на Беларусі.

І тым горш для яе, калі ня ведаючы гэтага, яна сама бярэцца за "глагол" зусім у унісон Кіеўскім і Галіцкім. І тым лепш для высьвятленьня і пацьвярджэньня яшчэ раз такое простае ісьціны: маскаль — ці ён чорны, ці чырвоны — "аднымі мірам мазаныя", і ў вадзін, у свой "всеславянский" лес, як ты іх не адпасвай, будуць пазіраць.

Гэтак, за няпісьменнасьцю і невуцтвам ізноў тое самае шыла тырчыць.

..Ой, айцец Апанас, айцец Апанас — толькі сьмех каля вас.

x x x

Ну, вось і зьехалі з філёлёгіі — хоць бы на філёзофію, а то на палітыку і на чысты сьмех.

Сьмех і грэх...

Ох, грахі, грахі... А — "палітыка, кажуць, цудоўная рэч".

Дык, хіба ўсё. І так ужо ці не залішне. Каля аднаго слова "сьвятар" гэтулькі насьвечана.

Не, яшчэ ня ўсё. Дарма, што сэм аргументаў вычарпаныя і пара-б, здавалася, адпачыць. "Седьмый день суббота — Господу Богу твоему".

І вы стаміліся. І мы таксама. Асабліва ад тае філёлёгіі, не задарма-ж кажуць некаторыя — чыстая рыцына.

Ды трудна, як дасі рады, калі часам і рыцына трэба. А порцыя яшчэ ня ўся дайшла.

Бо ня ўсё тое сьвет, што ў вакне, ня ўсё тое кажацца, што думаецца, і ня ўсё тое пішацца, што кажацца, і ня ўсё тое, што пішацца — друкуецца.

А пішацца, шмат чаго пішацца. І піша айцец Апанас... піша...

Тут ёсьць і філёлёгія, і "беларускія праваслаўныя імёны", і "складаныя сьвяшчэнныя словы", і ўсё ўсенькае. Давялося і нам праз плячо, адным вокам зірнуць яшчэ ў гэткі адзін ліст-дырэктыву айца Апанаса. Вось-жа і краскі...

У "імёнах" дык цэлыя мяніны. Вунь тыя "выдумшчыкі" Тарашкевічы з Лёсі

камі загадалі: у замежных словах падвойныя зычныя на пісьме не перадаюцца /бо кожны, хто знае замежныя мовы — ведае, што там яны зьяўляюцца толькі знакамі кароткасьці папярэдняга галоснага/. А мы — на злосьць будзем пісаць: Апполлінарый, Віссарыён, нават Касьсіян... Затое бальшавіцкага правапісу 33 г. паслухаем: Іосіф /а яшчэ-ж і Віссарыёнавіч/, Нікіта, Нікадзім, Нікалай /пра "Владзіміра" нешта зусім забыліся, як-жа з ім./ Дык што там бальшавікі і расейцы — мы і іх пераплюнем. Вунь яны "Матвея" дапушчаюць, а мы — толькі "Матфей" і "ниякіх гвоздей". А паступовасьці-ж, а вытрыманасьці-ж. Аляксандр, але — Сільвестар, Амільян, але — Елісей, Еўгенія, але — Аўфрасінія, Ксенія, але — Наталья... Алявоньці з Тарасіем чаго вартыя... Ну, пеўна-ж, і гэтым беларусам часам у дужках уступачка даецца: Надзежда /Надзея/...

Ды Бог з імі, з імёнамі, там-жа можа нейкая камісія да якога ладу давядзе. А вось "богабойны", "богаслужэньне" і іншыя "складаныя сьвяшчэнныя словы" — пісаць толькі праз "о". І рацыя — "таварышы" ў 33 г. і свае "сьвяшчэнныя" "інтэрнацыянальныя" словы прызналі, і гэтым, хоць не "сьвяшчэнным", для іх такі-ж правапіс прыпісалі. І куды ім, бязбожнікам, да нас — не маглі-ж дадумацца да гэткага: "Слова Бог" ня можа зьмяняцца на "Баг". Вось гэта дык запраўдная "сьвяшчэнная" філёлёгія. Ад яе рукою падаць да таго, каб у літары "о" у сярэдзіне крыжык ставіць, бо інакш праз гэтую круглінку чорт пралезьці можа, як раілі і рабілі некаторыя айцы ў сярэднявеччы...

Ды толькі адна маленькая няяснасьць:



а як-жа, калі "бажыцца", ці тым "высокім штылем", — каму "бажэственны" захочацца "ізабразіць" замежаўна — "каталіцкага" "боскі". Тут-жа ня толькі "о" на "а", але і "г" на "ж" пойдзе... Праўда, "г" і "ж" — адно з другое вылазіць, але якжа із "о" — дык "а". Ня можна-ж замяняцца на нейкае "баж"...

А ведаеце: можа наагул, давайце, гэтае самае "аканьне" нейкае — зусім па баку. Дзе гэта падобнае бачана ў "вялікай сям'і ўсходня-славянскіх народаў". І таварышы-славяне таксама-ж ужо былі на такую рэформу сабраўшыся. Дык так і запішам: "яно ёсьць выдумана Ластоўскім" і "патаму пажэрыць". Тады і ніякага "баж", а толькі "блаж"...

Ага, вось яшчэ што: кідаецца ў вочы слова "багаслаўленьне". Замест слова "благаслаўленьне". Ну, каму што, як нам — дык "благаслаўленьне" кідалася-б, бо змалку звыклі, што ў нас пабеларуску "блага" — тое самае, што і "дрэнна", "кепска", "пагана" /між іншага цікавая эвалюцыя слова: "блага", трапіўшы, як відаць, з ягонага непаўнагалоснага "бл", із мовы царкоўна-славянскае, у беларусаў зьмяніла сваё значаньне на зусім адваротнае. Добрае-ж, мусіць, дабро пад гэным "благам" адтуль ішло.../

А як "таварышам" — дык зусім "пад стать" — пісалі-ж і яны "пабеларуску" — "благародны". А калі дзядзька на вёсцы наадварот і разумеў, — дык усёроўна з праўдай не разыходзілася; вельмі благога роду было тое савецкае "благародзтва"... Дык хіба і тут па той "благой славе" затужылі.

...А "бажэственны" усё-ткі спатрэбіцца, як спатрэбіўся "таржэственны". Належыць пісаць "таржэственны", а не "ура

"чысты", бо гэта слова чыста каталіцкае. Слова "таржэственны" ёсьць ува ўсіх усходне-славянскіх народаў. Беларусы таксама належаць да вялікае сям'і ўсходніх славянскіх народаў"... /З ліста-дырэктывы айца Апанаса/.

Чулі. "Слова чыста каталіцкае". "Казаліцкую мову" чулі дзе-небудзь на сьвеце. Але ўсё-ж штось падобнае - чулі, і зноў-жа ад каго, як не ад "таварышаў". Можа яшчэ хто памятае палеміку "свайго часу" між "савецкімі органамі" - "Зьвяздой" і "ЛіМ" /"Літаратура і мастацтва"/. Больш прававерная "Зьвязда" рыхтык гэтак-жа дапякала мала не "нацдэмаўскі" /там "каталіцкі" ня ў модзе быў/ ЛіМ тым самым "агульна-славянскім" "таржаством" супраць "урачыстасьці". Гісторыя зноў паўтараецца... І тая самая "сям'я вялікая" /чакайце, можа хутка і да "великого русского народу" дагаворымся - "единоверный"-жа./ Усё тое самае, бо і чорныя і чырвоныя - "адным мірам мазаныя"...

...А што праўда - "таржаство", "таржэсьцьвенны" - ха-а-рошыя словы... Проста ад "торгу" і "таржышча" паходзяць. "Таржаство" з кірмашовым гармідарам, гармонікам, гарэлкаю - чым ня "милый сердцу вид". А то гэтая "урачыстасьць" яшчэ каталіцтвам урачэ...

Вось у гэтым каталіцтве, аказваецца, і ўвесь сабака закапаны. "Праўда, сярод беларусаў ёсьць пэўны % каталікоў, але дзеля таго, што іх ёсьць абсалютная меншасьць у нашым народзе, яны не павінны мець рашаючага значаньня ў нашым беларускім грамадзкім жыцьці, а таксама ня могуць навязваць сваіх думак і пажаданьняў абсалютнай 80% праваслаўнай беларускай масе народнай". /З ліста а. Апанаса/.

Гэтак, айцец Апанас, усё цяпер зразу-



мела. "Іуіре-е, і ре-е", падзяляй на "праваслаўных" і "каталікоў", цкуй "большасьць" на "меншасьць", плюй на якасьць, шануй толькі колькасьць, "масу", - і ўсё добра будзе, і валодаць-не-валодаць, а лавіць рыбку і душы людзкія /з тым, што "за душою" - гэта-ж галоўнае./ здолееш, "и долголетен будеши"...

x x x

Ну, цяпер ужо, здаецца, годзе будзе, досыць.

"Ясна ўсё - да канца".

"Калі не сьвятар, дык не ўбірайся ў рызы" - сьвятая праўдачка.

А як каму слова "сьвятар" і тут усё-ж не спадабаецца - іншае можам запрапанаваць: цямняр. І адразу прызнаемся - не Ластоўскі, самі выдумалі. І думаем, што з ім "можна пагадзіцца" на той падставе, што слова "цямняр" зусім адказвае свайму назначэньню. І яшчэ дакладней растлумачыць гатовы: -

"Цямняр" паходзіць ад слова "цямніць", "засьціць сьвятло". Той, хто ня йдзе, а гарою стаіць, і "общепонятно" кажучы, "наводит тень на плетень", і цемніць, называецца хіба: "цямняр".

Бо як каму што падабаецца. Як ня хочаце сьвяціць, несьці сьвятло, сьветач, паходню - рабеце так, як калісь той герой у Леаніда Андрэева: гасеце свае ліхтарыкі /ці, бо, праўда, "фонарики"/ адным дыхам задзьмухайце сьвечкі, і лезьце ў цемру. Туды, у цемру сярэднявечча, абскурантызму, грызьні "артадоксаў" і "схізматыкаў", "герэтыкоў" і "фанатыкаў". Паўзеце сабе з Богам, але толькі - самі адны.

У гэтым нам із вамі, як і ўсёй тэю "большасьці", на якую пакліkаэцеся, і якую нацкоўваеце - не па дарозе.

Мы заўсёды прыслухаліся іншаму кліччу:
Гэй, да сонца, гэй, да зор.
І заўсёды за ім ісьці будзем, пакуль хады.

Як ня хочаце быць сьвятарамі, заставайцеся "цемнярамі" навек. І помна, што застанецёся імі – самі адны.

Ды самі адны вы былі-б нам невялікі клопат. Адзін наш байкапісец добра свайім часам сказаў:

Каб сонца засланіць,
вушэй аслiных мала.

Але па гэтых па вушох у вас лёгка пазнаць і таго, хто адзадзя едзе і кіруе, і хто куды страшней. Таго – "пославшего вас".

Супраць яго, супраць "чумазого", маскаля – быў-бы ён бальшавік, ці не-адна трасца, будзем змагацца, будзем выкрываць, як мага і дзе мага выкрываць і біць. І ўсе, як адзін, бяз вашага падзелу на "праваслаўных" і "схізму".

І ўжо да яго, што ў вас ці за вамі, апошняе слова:

– Калі не сьвятар, дык...
...скінь скуру, дабрадзею,
бо зубкі відаць.

Гэта апошняя вам і прыказка і байка. Ведаеце пра каго. Пра "воўка ў авечай скуры". Ведаеце, хто сказаў. Багушэвіч. Францішак звалася. Каталік, значыцца. Той самы, што ўсё беларускае адраджэньне "выдумаў". Тое самае, на якое ў такой бясьсільнай злосьці заўсёды скрыгічуць вашыя маскальскія зубкі.

Амін.

-:-:-:-:-:-:-:-



## НЕ КЛАДЗЕЦЕ ПАЛЬЦА Ў РОТ

/Памфлет старога "ворага народу"/.

Памфлет /ад "paime feuilles" – лісток"/ – літаратурны твор публіцыстычнага характару, у вадрознасьць ад фельетону /ад таго самага "feuilles"/ заўсёды едкі, безаглядны, зьнішчальны.

Даведка на ўсякі выпадак

### ЛІСТОК ПЕРШЫ

Ад сабакі

У 1928 г. адзін наш паэта надрукаваў свае "Лісты да сабакі".

Мы былі ягонымі сучасьнікамі й суперажывальнікамі, а некаторыя і больш.

Мы добра памятаем, які гвалт узьнялі тады вакол гэных "сабачых лістоў" вы бальшавікі. Бальшавікі партыйныя й не партыйныя, адкрытыя й сукрытыя. Бальшавікі й бальшавізаны.

Але, дай Божа, памяць не забылася, яшчэ, як захоўваліся й некаторыя з вас, дарагенькія сяброчкі ў беларушчыне. З тых, што жылі /цяпер яшчэ пражыць хочуць/ ад прашчураў адказаным: "Абы ціха..." "Абы пакультурнаму..." "Абы пасьмейнаму..." "Абы не зарэзка, а абы не завойстра"...

/Чэхаўскае – "футаральнае": "Абы чаго ня выйшла"/.

Але вы, каго назавом сяньня – чыста ўмоўна – "меншавікамі"...

Вы, здаецца, таксама былі крышку шакаваныя. Паэта піша лісты... да сабакі... І піша да сабакі, як да сябра. Мала – як да блізкага, да дарагога. Па-

эта цалуе..., сабаку. Ці не "загруба". Ці не занадта "някультурна", "не эстэтычна". Што скажуць дзядзькі, што скажуць суседзі. "Ці не зарэзка, ці не завойстра".

Паэта жыў тады ў Ленінградзе.

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,
Далёка ад цябе, мой дружа...

/Мо а ое е: "Дружа" -...сабака. "Ах, які пасаж."/

У тым самым Ленінградзе, што быў Петраград, Пецярбург. Дзе калісь Пётра "прасек вакно ў Еўропу". Кудэю, як хочуць аж сяньня запэўніць, і для нас, грэшных – для нас, беларусаў – "карацейшы шлях" на Захад /якраз, як тая бабулька маліла ся: "...і ступіў да пекла, бо падарозе было".../.

Адтуль, з гэнага "карацейшага шляху", з-пад таго "вакна", не адрываўся глядзець паэта назад, на свой родны край. Выглядаў напружана, "ці хто пастукае ў вакно"... Ды бачыў – адны ланцугі. Ды знаходзіў у аднаго толькі вернага сябру, аднаго толькі – сабаку. І яму пісаў:

...Ніхто, ніхто... Закуты ланцугамі...
Хтось рукі заламаў у далях сініх...
ВАРТУЙ, ВАРТУЙ СВОЙ РОДНЫ ГАНАК –
ПІШУ АБ ГЭТЫМ Я ТАБЕ З РАСІІ.

Вы, бальшавікі, старэнна ўдавалі тады, што навет ані не заўважаеце гэтае, найкрасамоўнейшае мясьціны. Што не яна гэта наймацней узьюшыла вас. Не яна, а яўнае упадніцтва, "схаванае кулацтва", замаскаваная клясавая варожасьць"...

Ну, а вы, нашыя і наскія, вы даражэнькія сяброчкі – "меншавікі" і "культурнікі", вы – ці заўважылі гэта. Ці задумаліся над гэтым тады. Ці зразумелі, каму гэнкая прарочая перасьцярога: --

Пішу аб гэтым я табе з Расіі.

Ці адчулі, хто гэта павінен стаць на



варце "роднага ганку", на варце, проста – пасабачаму вернай, пасабачаму пільнай і пасабачаму-ж зацятай.

БО ГЭТА-Ж ДА НАС, ДА НАС-УСІХ БЫЛО.

Гэта мы ўсе тады мусілі абняць такую варту. Сабачую варту. Пільнаваць удзень і ўначы. Пільнаваць хату нашага Гаспадара, "вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц". Бо што будуць, зараз пачнуць расьцягаць ж – тады ўжо відаць было гэта, тады перасьцерагалася "аб гэтым... з Расіі".

Гэта мы ўсе тады мусілі нажыць сабе нейкае шостае пачуцьцё. Пачуцьцё, роўнамоцнае ў вайстрыні сваёй таму сабачаму нюху. ПАЧУЦЬЦЁ ВОРАГА.

Гэта мы ўсе тады мусілі, няхібка й адразу пасабачы "зьнюхаўшы" тым пачуцьцём ваўка, хоць і ў якой, хоць і ў авечай скуры, – адразу-ж і кідацца на яго. Кідацца, шкуматаць і рваць, браць "мёртвым хватам". Кідацца, хай і "някультурна", "неэстэтычна", хай і "груба", "зарэзка й завойстра" – ведама, пасабачы...

Гэта мы ўсе тады, у вабставінах сыстэмы, якая закоўвала ланцугамі чалавека, змагалася на зьнішчэньне з чалавекам – мусілі й маглі захаваць сваю чалавечую ды нацыянальную годнасьць толькі стаўшыся вернымі сабакамі – вартавымі й абаронцамі – адзінага й праўднага Гаспадара.

Мы мусілі, мы маглі й мы сталіся. Ці ўсе ткі.

Не, ня ўсе. Ці не найбольш з нас засталося тады ў першым радку:

...Ніхто, ніхто... Закуты ланцугамі...

Найвышэй – уздымаліся да другога:

Хтось рукі заламаў у далях сініх...

Здаецца, і вы, дарагія сяброчкі – мен

шавікі", "культурнікі" — апынуліся тады тут. Тут, "у далях сініх", заламалі рукі.

Адны — з маленьнем аб чашы на вуснах: "Да мимо идет мень чаша сія, но не какожде аз хощу — какожде Ты"... Гэта — з вас найлепшыя, найшчырэйшыя сыны. Асабліва тыя, што й выпілі чашу /а шмат хто — і па кроплі/ — дадна.

Другія — маліліся проста, паўшы на калені: "Пашкадуйце. Зьлітуйцеся." Слабыя духам. "Да мимо идет" іх нат успамін нашсяньня...

Трэйція — заламалі рукі, усё "культурна" пераконваючы, "даводзячы", правуючыся, калі ад зладзейства й блізка ня былі. Так іх сярод вас было бадай найбольш. Шмат і пасвойму наравістых. Навет, топленыя, з вады паказвалі два пальцы: "стрыжана, а ня голена".

Што-ж, магчыма, — і гэта геройства. Але — ці пераканалі, ці "давялі".

Давялі — сам і сябе й хто да чаго: хто — "да сьценкі", хто — "да ручкі", хто — да торбы.

І нас, што не здрыгануўшыся пайшлі на "сабачую службу" роднаму краю — так мала, зусім мала тады было. І так лёгка было даць з намі рады — вам, бальшавіком.

Найлягчэй і адразу — злаяць: сабакамі. Самі-ж напрасіліся.

Але, напрасіліся, і лаянку навет із гонарам прынялі. Горда сьцьвердзіў паэта сам:

... паэтам стаў сабачым...

Але, ганарыліся навет гэтым.

...А тады — гіцлі вашыя лёгкія — па адным — пераловілі нас і ў буду сваю — паўкідалі. Толькі сабачымі хітрыкамі ўдалося вылузацца сяму-таму з-пад вашай "пільнасьці" гіцля-бальшавіцкай.



Толькі адзінкам пашчасьціла высьлізнуць з-пад самае жывадзёркі і — зноў на службу Гаспадару. Гаспадару, — якога — бяз нас — вы управіліся ўжо і з хаты собскае выгнаць, і ў прочкі, у сьвет сагнаці.

Яму служым і сяньня. І ў ранейшай сваёй якасьці. І з гордасьцяй тэй самай...

Пільна — на варце. Нюхам — за ветрам: хто чужы, а хто свой.

А ворага — проста за горла: паранейшаму "груба" і "някультурна".

Можа навет — "нацыянальна па форме". Гэткімі-ж і вы дазвалялі быць.

Бо і сабакі-ж — рознай "нацыянальнай формы". І нашых ад вашых яшчэ калісьці, у "Нашай Ніве", Ядвігін Ш. адмежаваў.

"Пёс твой Васька государеву руку лижет" — у нашай "форме" гэткіх ня было. Гэткія — "псы" — як і ўсе вы — "чэрці ня нашага Бога".

Бог у нас свой і свой Гаспадар. Мы служылі й служым, служым і будзём гэтак служыць.

Служым і будзем гэтак служыць, пакуль "чужыя людзі ходзяць каля ганку". Чужыя людзі, а старыя знаёмыя: вы, бальшавікі.

Служым і будзем гэтак служыць — да апошняга дыху.

## ЛІСТОК ДРУГІ

### Народ, "народ" і "Народ".

...А пасьля вы, бальшавікі, менавалі нас вышэй: "ворагамі народу".

Гэтак было адразу-ж пасьля таго, як дасталі й толькі ад пылу абцёрлі самы гэны "народ". Выкінуты, валяўся дагэтуль у вас, разам зь іншымі абразамі, на сьметніку. Вы казалі навет — на сьметніку гісторыі. Выкінуты, казалі як "клясава неаднастайны", буржуазны

фэтыш".

Вы хапіліся-былі тады за сьметнікі "Утыль-сыравіна". Утылізаваць-жа можна й "фэтыш": таксама рэч.

І утылізавалі — з хворай на здаровую, як заўсёды ў вас. З нас яшчэ ворагаў хацелі зрабіць — ворагаў нашаму Гаспадару.

Бо Гаспадар, каму вернымі да сабачага заставаліся й застанёмся — гэта-ж і ёсьць ён, „Народ". Наш крывіцянскі народ.

Вам-жа "народ" — ізноў з тых "чартоў" ня нашага Бога. Ваш "народ" — толькі вашы "палітычны прыём". А за ім, за "прыёмам" — хіба адно: нівэляваная тэрорам і страхам маса, пакорнае жывёльнае стада, часам можа — ускручаная й разьюшаная дэмагогіяй гарда.

І найміленшы ваш "ідэал" — стары й ведамы: "Народ безмолвствует".

Такога "народу", што праўда, мы — ворагі.

Мы — ворагі тупое грамады-натоўпу, ворагі чэрнядзі, і яна — наш вораг. Гэта ў нас — узаемна, і гэта — назаўсёды.

Наш паэта — наш правадыр ад нас усіх сказаў, і сяньня яшчэ раз паўтараем:

Будзіць усіх і заклікаць-ці варта: —
Няма з паловы й ня было карысьці
Рады гартуйце сьмеласьцю ўпартай.
Ой, вечар, вечар — ды не вечарыся.

І мы абміналі заўсёды й заўсёды абмінём яе, тую бескарысную палову. Навет калі яе й больш за 50% будзе. Мы не паклонімся ёй, цёмнай і цемнатворнай, як-бы там не "вечарылася".

Бо добра сказана: "Із сту дурняў ня зробіш аднаго разумнага".

Чулі гэта, "таварышы" — бальшавікі. Чулі — ваш улюбёны закон — "пераход колькасьці ў якасьць" — тут яўна хібіць.



Дурні навет у масе не разумнеюць, гэта-ж кажнаму — як двойчы два — чатыры.

Зрэшты, гэта ведалі, ведаюць добра й у вас. Ці чулі вы гэткі "антысавецкі" анэкдот. Калі ня чулі, — дык пацікавіцеся: якраз із галіны "ленінска-сталінскае нацыянальнае палітыкі":

"Адзін грузін — чысьцільшчык ботаў. Два грузіны — лезгінка. Тры грузіны — палітбюро.

Адзін жыд — "кустар-адзіночка". Два жыды — каапэратыў. Тры жыды — апазыцыя.

Адзін расеец — дурань. Два расейцы — два дурні. Тры расейцы — тры дурні".

Бачыце — навет паводля самых марксавых нашчадкаў не заўсёды колькасьць пяройдзе ў якасьць...

Але-ж, із сту дурняў ня зробіш аднаго разумнага, і сто баязьліўцаў ня прыймуць ніколі гераічнае пастановы.

Вы прабачце, маменькі — а як-заглядаецеся на "народ" вы, даражэнькія сяброчкі — "культурнікі"...

О, ня так, троху ня так і троху ня гэтак.

Для вас "народ" заўсёды зьвялікае літары і заўсёды — Бог. Для вас "народ" гэта той "нерукатворны абраз", перад якім млелі былі калісь расейскія народнікі. Той "народушко", багавіць і пакланяцца якому заклікаў адзін час навет сам Максім Горкі — тады "богабудаўнічы", а пазьней — бязбожнік.

Можна сабе ўявіць, якімі вялікімі зрабіліся былі вашыя "культурныя" вочы, даражэнькія сяброчкі, чытаючы ўсё тое пра масу й дурняў, што проста і "груба", верныя сабе, напісалі мы тут нагадзе.

Дарма, перажывеце гэта спакойна. І ве-

дайце: для нас народ — ня Бог і ня кумір. Для нас народ — толькі Гаспадар. Бог — над ім.

Ды наш Гаспадар — Разумны. Пяўхільныя "сто дурняў" тут нічога не зьмяняюць, навет каб іх і больш набралася. Бо дурань ня бывае гаспадаром, і хто дурнее — перастае быць ім такосама. Так ім два шляхі: ці ў пустадомкі, ці ў парабкі. З такімі на гэтых шляхох — навет-і з большай колькасьцю — разьвітацца ані ня шкода. "Будзіць і заклікаць", "вразумляць" іх — такосама дарэмны клопат.

...Але, наш Гаспадар — Разумны сваім адвечным, адпрыродным і ў безьлічы выяваў ды праяваў зафіксаваным Розумам. Разумам нацыі.

Больш таго: гэты Розум — і ёсьць-жа наш Гаспадар.

## ЛІСТОК ТРЕЙЦІ

### А як было ў Заходняй.

..."Лісты да сабакі" былі перадрукаваныя, хоць і куды пазьней, у Заходняй Беларусі /гл. часапіс "Калосьсе"/.

Якую рэакцыю выклікалі, якое разуменьне знайшлі яны там. Аб гэтым, апрача вельмі-вельмі агульнага, дасюль нам нічога ня ведама.

Мы ведаем, што і ў Заходняй Беларусі былі свае бальшавікі. Цяпер мы ведаем навет і ўзвычаены там назоў — мянушку для іх: "камікі".

Былі і "камунізуючыя" — тыя самыя "непартыйныя бальшавікі". А як-жа з вашым братам, дараженькія сяброчкі-ў-беларушчыне — "меншавікі", "культурнікі".

О, было — гэтых дык напэўна было. Не магло ня быць у дзяржаве, дзе кіраваў народ, аддаўна й шырака знаны сваім "культурным" далікацтвам. Народ, у



якога на ўсім вонкавым захоўваньні-вышываны лёзунг заўсёднае гатоўнасьці: "Саі е, ас кі і раоа оо оо." /Гэта дарма, што падыспадам — і другая гатовасьць: уваткнуць найглыбей найвайстрэйшую шпільку, падкаціць найямчэй найвялікшае сьвінотва.../.

Не цалаваць у "ас кі" і ня пацаць "оо оо" — ужо навет "някультурна" і "груба", "завойстра" і "зарэзка". Навет у лаянцы не адбудзецца чалавек бяз "культурна"-далікатнага "пана": "Ра е ё оадоа е".— А ра е е ... к оvvу у е. А каб выштырыць за дзьверы — пашанотная формула: "И е vурео а ра а а е р о — е р ес"...

І гэта-ж-усё было ў узгадаваньні, гэта ўсё насілася ў атмасфэры, гэта-усё не магло не асесьці хоць драбочкамі і на нашых людзях. Гэта ўсё не магло не "здзецыдаваць", нажучы модным там дзівацкім слоўцам, не магло ня спрыяць асабліваму культываваньню тыпа "культурніка" — "меншавіка".

І ён, пэўна-ж, мусіў і выкультываваўся, а мо навет і вырафінаваўся.

Як мог успрыняць такі тып "Лісты да сабакі"?

І ён, пэўна-ж, мусіў пачувацца ня менш шакаваны. Толькі яму была другая магчымасьць — магчымасьць шкадаваць нас, няшчасныя ахвяры бальшавізму, даведзеныя да стану сабачага адчаю, ад якога і ўсе якасьці "грубасьці", "някультурнасьці".

Ну, а не шкадаваць — але ЗРАЗУМЕЦЬ — ці спрабаваў хто. Зразумець і выказаць гэтае зразуменьне.

Бо ўжо што-што, а выказаць зразуменьне там зусім вольна можна было. Ужо хоць-бы таму, што яно не магло ня быць

першым чынам сваім не антыбальшавіцкім.

Можа мы блага шукалі, але такога выказанага зразуменьня так і дасюль не знайшлі.

А тым часам ня толькі зразумець, а і стаць на варце "роднага ганку" - і ў Заходняй быў ня меншы мус, калі яшчэ ня большы. Большы хоць-бы таму, што прынамоя на два фронты: і ад "людзей вуліц", вуліц варшаўскіх, і ад людзей зь нявыжытым духам традыцыяў і ўспамінаў "Невского проспекта", "Исаакия" - ды іншых "единых и неделимых" ці "единоверных" атрыбутаў. "Комікаў"-жа ня будзем браць і ўлік. -

І пеўна, нехта мусіў стаяць і на варце, на нашай сабачай варце. Мусіў пільнаваць і кідацца, - і браць за горла.

Ці ставала ткі яму на гэта "грубасьці" й "някультурнасьці".

...Зыйшлі із сцэны "комікі", адыйграўшы сваю - хто камэдыю, а хто трагэдыю.

Засталіся "меншавікі" - "культурнікі", далікатныя паночкі /ну, калі ўжо не паночкі, дык "грамадзяне" - толькі каб, Божа-крый, не "спадары"./ Цяпер гэта зь імі часта бывае камэдыя /хто ня ведае, а хто ведае - някае камэдыі.../.

Для іх "ворага кажны за плечы браў, сьмела" - недасяжны ідэал, і то - с івое мінуўшчыны, а ня будучыні навет...

- ...Дзе вы, сябры ў безагляднасьці і зацятасьці - адгукнецеся.

...Мала нас, і сяньня мала нас што бяз белых рукавічак, голымі рукамі...

Дарма, пачакаем яшчэ: пабольшае, напэўна пабольшае.

Ня можа не пабольшаць.



# ЛІСТОК ЧАЦЬВЕРТЫ

Наша часьць

Жывучы ўсяго пабачыш -
І даліны і узвышшы.
Той жыве, як сын сабачы,
Тым і дзеці чорт калыша.
Неаднолькавыя дзеці,
Неаднолькава і шчасьце.
Так спрадвеку ўсё на сьвеце
Падзяляецца на часьці... -

Праў адзін наш паэта.

Так і запраўды спрадвеку вядзецца. І можа нашую часьць - часьць гэных "сабачых сыноў" - мы ня самі сабе абралі тады, а выпала яна нам і запраўды ў дар ад самое долі.

Ды дарма, ці так, ці ня так. Мы несьлі й нясем, панясем гэтую сваю часьць, не адступаючы ад яе і не наракаючы, ня каляючыся на ейны цяжар.

Хай ужо хоць гэта ды будзе наша.

Абразы мы й цяпер не баімося. Хай яшчэ і яшчэ абзавуць сабакамі, гэта й цяпер - толькі гонар - нам, верным і зацятым да самазабудзі служак свайго Гаспадара.

А зуб наш яны ўжо пакрысе дазнаюць на сабе. І яшчэ дазнаюць. У гэтым ужо - нашае глыбокае задаваленьне.

Чулі, як нядаўна праравалася з таго боку. -

-НЕ КЛАДЗІ САБАКУ ПАЛЬЦА Ў РОТ - АДКУСІЦЬ.

Правільна, панове-гаспада-таварышы, як ніколі мо правільна. Не кладзеце гэтак вашых пальцаў, не падтыкайце вашых далікатных пальчыкаў /з тых, пра якія пяецца: "ваши пальцы пахнут ладаном"/, ці - высокім стылем - "не влагайте перстов", ведаеце бо, з кім маеце

справу.
А калі думалі даняць ці "зрэзаць" нас гэтым "сабакам", дык - як бачыце самі, давялося расчараваць вас крыху.
І наагул, ведаеце-ж - "кураныя-вочы дыму не баяцца". А нашыя закурэлі не ад таго, так мілага вам кадзільнага фіміяму хвалы, а ад страшэннага куродыму вам і-ж распаленага нялюдзкага пекла.

## ЛІСТОК ПЯТЫ

Вам, дарагія сяброчкі...

Цяпер - пару словаў спачатку да вас, даражэнькія сяброчкі, ў беларушчыне, з тых, што "меншавікі" - "культурнікі".
Вы не падзяляеце й не ўхваляеце гэтае нашае "сабачае" тактыкі: калі толькі вораг - хапай адразу й кусі, за што пападзя. Вы хацелі-б тут і цяпер, пакланіўшыся направа й налева, далікатненька так, каб, крый Божа, не зачапіць людзьмі твораных "аўтарытэтаў" і імі-ж надаваных "чыноў" і "санаў" - асьцярожненька "зазначыць", пераканаць /каго./ "давесьці"...
Вы не разумееце, чаму й адкуль у нас такая безагляднасьць і зацятасьць, "лютая варожасьць". Можа гэта крыху выясьняць вам таксама паэтавы радкі:

Калі помста - крышы навокал,
А за тое - што гнулі ляшчынай.
... Можа, думаеш, гэта лёгка
З роспачы зубы заціснуць шчыль-

/на.

А нам даводзілася, даражэнькія сяброчкі, заціскаць зубы, ой, няраз даводзілася - ад таго, пэўна, і такая зацятасьць увайшла ў іх.
Зубы-ж у нас, ведаеце, ад гэнага: "як даробіць ліха - прарэжуцца й зубы". Ліха й дараблялa, дарабіла нас. Можа й з вас каму давядзецца скаштаваць гэтага



дабра. Не жадаем, але - ці-ж гэта саміі прыемна хадзіць па сьвеце недаробленымі й бяззубымі. А зубы - ой, як патрэбная рэч. Асабліва нашым часам і нам, калі трэба прост выдзіраць сабе долю зубамі. А без сваіх ообскіх зубоў - дзіцячым сюсюканьнем ці старэчым шамканьнем - навет іншаму каму зубоў не загаворыш.
Праўда, прабачце: вы-ж не асталыя, "някультурныя"-знахары якія, каб зубы загаворваць ці валасень выліваць. Не - вы-ж хутчэй прэтэндуеце на самых дактароў, вы-ж усе так праняўшыся клопатам аб усіхных, навет аб нашым бедным здароўі. "Нездаровая зьява" - ставіце вы нам свой гіпакратаў дыягназ і прабуеце-навет нейкія рэцэпты ацаленьня прыпісываць. А як-на наскую сьціплую думку, дык выходзіць крышачку ды наадварот. Якраз здаровая, даражэнькія сяброчкі, найздаравейшая. Што праўда, паво для рэцэпту прыказкі: што аднаму здарова - іншаму сьмерць. А нам-жа толькі аб тое й ідзе, каб гэнаму іншаму - ворагу й непрыяцелю - сьмерці Бог не пашкадаваў.
Але-ж самыя пачуваемся зусім здаравюсенькімі. Дый падумайце самі: нездаровым ня велымі што паткнешся ў "перапалку" ці хопішся за тую "палку" - "Кто палку взял - тот и капрал"...
Ага, вы-ж страшэнна абураныя гэтымі нашымі, быццам-бы, самазванымі "капральствамі". Вось тут - дык чысьцюткае непаразуменьне, даражэнькія. Богу душой не вінаватыя. Як на судзе страшным, прысягаемся: гэта-ж ня нам, да-душы, ня нам трызьняцца "палкі" ці "жэзлы" ад "капральскіх" да "маршальскіх"... Не, - да чыгноў - ці капральскіх, ці палкоўніцкіх ці

генеральскіх, ці маршальскіх – заўсёды пачувалі й цяпер пачуваем як найглыбейшую абыякавасьць. Можа яно й добрыя, і патрэбныя, і карысныя (о, напэўна, навет карысныя.) але-ж ня нашага, не "сабачага" сьвету зьявы й паняцьці. Слова "чыны" нам больш да спадобы з націскам на першым складзе. Націскаць на канец няцікава, бо ведама – заўсёды "палка о двух концах". І як на адзін канец – націснеш – другі, бывае, па лобе сьвісьне. Як і адзін паэта, нябожчык ужо, пабойваемся мы, каб на гэтым другім канцы зноў ня вылез

...цень, з магіл,
Крывавы грош і "гаспадзін",
А іх закон – адзін, адзін...

І "палки" тае, ведаеце, пабойваемся таксама. Вы дзіву даяцёся й веры не даяце. Да-душы-ж, праўда, – знаеце-ж, мусіць, прыказку: "як сабака палкі..." А мы – якраз "палки", хоць-бы сабе не хто й "кием" пабеларуску перакладаць думаў. Бо і ў нас-жа ўсёроўна – "ня кіем, дык палкаю". І якраз, пабойваючыся гэтае "палки" (самі добра сказалі "старарэжымнае"), стараемся толькі як мага не падпушчаць да яе блізка старога, "старарэжымнага" гаспадзіна. А вам ужо й здалося, што мы яе, палку тую, самыя паднялі і ў рукі, ці бо – у зубы. Не, хай сабе тымчасам валяецца, бясьпанская, а хто паткнецца да яе з гадкімі рукамі – таго зараз-жа – кусі.

А выпадзе патрэба пахрысьціць каго якраз тэю "палкаю" – можа й хопімся за яе, пераможшы страх і агіду. Бо можа-ж, ведаеце, выпасьці такая сытуацыя, калі "не паслухае ківа – дык паслухае кія". А некаторыя-ж натуры толькі гэтае мовы й слухаць здольныя. Не чакаць-жа



тады, у такой патрэбе, пакуль вашыя "культурныя" рукі да палкі ці да кія дайсьці ласкавыя будуць. Тым-больш, што ад вас – із рук у рукі – ліха ведае дзе апынiцца можа, аж у таго, ад каго так пільнуем і ахоўваем. А права ахоўваць і пільнаваць здабылі сабе ранейшымі заслугамі свае "сабачае службы", так што ў менаваньні "капральскім чынам" ад каго-небудзь ані патрэбы ня маем.

Не, як сабе хочаце, мы больш звыклі думаць сваймі прыказкамі, як чужымі, хоць-бы сабе й перакладзенымі (ды да воліткі "кіявата"). І вам на месца таго капрала старога "честного и христолюбивого воинства" маглі-б ёмкую беларускую запрапанаваць: "Хто каго нагне, той таго наб'е". Вось-за гэтую прыказку мы галасавалі-б усімі чатырма. Добра нас гнулі, "гнулі ляшчынай" (глядзі вышэй паэтаву даведку) і білі, пачым пападзя, тае "палкаю". Ведаем, што за смак. Цяпер мы, дзякуй Богу й добрым людзям, разгінаемся, і каб ізноў не апынiцца ў ранейшым нагбе, ведаем, што трэба: калі сяньня іх, тых "Палкіных", не нагнём – нагнуць яны нас заўтра-пазаўтра. Дайце-ж ужо хоць у сябе дома, на Беларусі, жыць паводля нашых, беларускіх прыказак. А яны ў сябе дома – хай сваймі жывуць, даганяць і "нагінаць" іх там нам – ані шум баравы...

...Вы, навет, можа, трэбуеце нам і із свайго "культурнага", па дарозе да "маршальскага" узвышша. Што-ж, можаце. Як тыя "сабакам" – гэтак можаце і вы папускаць у нас "краўцом", "швачкай" ці "партамыйніцай" (гэта-ж ня лаянка, не – гэта зусім "культурна"...) І гэта ня можа абразіць нас, хоць і ад вас, ад сваіх.

як-ні-як... І гэта бяром на сябе. Трэба-ж некаму быць і краўцом, і швачкой. І гэтай самай партамыйкай навет. Шмат чорнага порця назьбіралася, ой шмат, багата чорнае работы – паробім і яе, бо гэта-ж усё – на Гаспадара. І вас, даражэнькія, крышку таксама: ня будзеце нечага пэцкаць сваіх, пабялелых ужо на "чыстай", "культурнай" працы далікатных, залатых ручак. Дык няхай і гэта будзе нашая часьць. Вы-ж цьвердзіце /не бяронся перакаваць, "пакапральску" ці "папаршальску"/, што можаце ужо нямала беспамылкова расставіць наш нацыянальна-кіраўнічы актыў на адпаведныя нахілам і здольнасьцям кажнае адзінкі месца. Дык чаго прасьцей: не "расстаўляйце" нас нікуды, а майце ласку пакінуць нас, можа, якраз павашаму "выпадковых адзінак", ня маведама скуль узяйшоўшых у Беларускі Рух" – на нашым "сабачым" ці "партамыйніцкім" месцы. Да-душы-ж, адпавядае і "нахілам" і "здольнасьцям".

І гэта была-б нашая найбольшая й найпакарнейшая да вас просьба. А там можаце сабе і шмат чаго іншага каля нас культурна вычвараць. Можаце навет дражніць "гістэрыкай"... І гэта сьцерпім: "гістэрыка"-ж навет зусім гучыць-на "г і р" – на наш, сабачы слых. Навет можам прызнацца вам шчыра: няраз тады, як трэ было "з роспачы зубы заціснуць шчыльна" – так цягнула нас проста ў сабачай натуры "завыць на месяц". Вам не знаёмае гэткае перажываньне. Пэўна, дзе там... Дык і знаёміцца не жадаем гэтым разам ужо бяз усялякіх "але" – бо і для нас яно самі[х] ужо "неактуальнае"...

Толькі, даречы, ці заўважылі вы, што дражнячы – якраз дражнячы – нас



"гістэрыкай", вы, даражэнькія "меншавікі", ці ня пераймаеце крыху гэты, як кажуць, "прыём" ад тых – ад самых "таварышаў"-бальшавікоў. Бачылі, пэўна, калі такую частую сцэнку: на чалавека, які яшчэ й разявіцца ня ўправіўся, коршаком налятае такі балабоста: "Чаго вы крычыце. Ня крычэце. Вы заўсёды так крычыце." Нешта падобнае як-бы й у вас выходзіць. Вы ўгаворваеце нам "гістэрыку" там, дзе мы якраз зусім спакойна й бяз шуму хапаем адразу "за гіры". Навошта гэта вам. Бо мэта магла-б быць тут толькі адна: калі запраўды ўзьвіецца "гістэрыка", уздымецца крык, гвалт, "хай" – заўсёды лягчэй некаму высьлізнуць, уцячы й "пад шумок" замесьці сьляды...

...І навет, як камень калі сарвецца на нас і з вашае рукі – навет і гэта даруем вам. Бо не забываемо-я ніколі: усё такі вы, хоць і "меншавікі", а – свае. Таго самага, нашага Гаспадара, дамоўкі, а калі часам трапяцца сярод вас і "чэрці" – дык усё-ж "нашага Бога". А свайго – ніводзін з нас і неўнарай не зачэпіць. Гэта, ведаеце-ж, непарушны закон – і добрае сабачае этыкі. Тае самае этыкі, дзеля якое мы й узялі на сябе сваю "сабачую часьць" – для ўсіх – і за ўсіх. І для вас і за вас у тым ліку: каб і вам спакайней і яшчэ чысьцей было разводзіць вашую ўсялякую-там культуру...

Адно толькі – усё-ж маленькая, ну, як-бы й не перасьцярога, і не засьцярога, а усё-ж... Як-бы толькі гэта вам, культурней каб, выясьніць. Ну вось, уявеце сабе: сабачая ганьня апанавала ваўка. Раптам нехта, каму, неспадзявана ці спадзявана, стрэліў у галаў "гуманізм" ці што такое, захацеў-бы адбараніць ад ра-

зьюшных клоў "няшчасную ахвяру". Вось і пытаецца, як у тэй задачы: а што тады быць можа. Як сам і думаецца, га. Здаецца, з адным — другім шкуматнём — рыкашэтам — ува ўсякім разе лічыцца трэба. Вопратка адказаць можа, а бывае, што й да цела дастане...

Класьці палец у рот — ня ў вашай натуры, гэта мы ведаем. Але ўтыкацца паміж двух трайцім — не заўсёды на прыемным адрысе апынуцца можна. Дык ведаеце што? наагул, хадзі дзе згледзіце, што ляціць у паветра шкумацьцё поўсьці — абмінайце лепш укругла на належнай дыстанцыі. Няхай яго...

Ды хоць пальца ў рот класьці і ня будзеце — не кладзеце яго й на вусны. Зарана яшчэ наводзіць у нас грамадзкі спакой і парадак оўшальным "то-со"... Ні й "культурнай" быцьцё, у тым выпадку, калі ўжо так разьвіць "атмасфэра скандалу" — заткнуць сабе самым пальцам вушы.

Наагул-жа, ня ўсякае ўжываньне варта даваць пальцам, і не на ўсякае ўжываньне іх аднолькава заглядацца трэба.

І сабе самым, і вам, і іншым можам толькі паўтарыць тут яшчэ адны паэтавы словы:

Жыць аднойчы давялося —
Налівай атруты корац.
"Калупаць ня трэба ў носе;
Налі ў вочы пальцам поруць."

Мо іншага, можа не бязь цікавасьці будзе ведаць: у паэтавым двукосьсі трап у тады аўтэнтычны ўлюбёны сказ нябожчыка Ўсевалада Ігнатоўскага.

Тады ўсе ў нас яго звалі Бацькам...

ЛІСТОК ШОСТЫ Й АПОШНІ

І да вас, панове-гаспада-таварышы і нарэшце і наапошак — з вамі гаворка,



панове-гаспада-таварышы. Бальшавікі партыйныя й "непартыйныя". Адкрытыя й укрытыя. Бальшавікі й бальшавізаны.

Мы-ж — старыя знаёмыя. А вы ані не зьмяніліся таксама, шчыра ў тым прызнаёмся.

Ня ўзьмене-ж скура-к ці матар'ялаў рэч. З тае самае-ж сыравіны робяцца і сталіны, і жалязьнякі /"был партизан Железняк" — гэтая песьня і цяпер пяецца/. З тае самае балотнае руды.

І на скуркі ў нас нюх узгадаваўся — няхібны. Ведаем добра:

Славянафільства, панславізм. — адразу кусі, тут вы, пад гэтай старэнькай аўчынкаю — вунь ужо папракусвана, сьвіціцца.

Фэдэралізм. — Ветрам носам сьляды: тут недзе паблізу самі хадзілі. Гэта толькі штучкі, што й праўда думалася пра нейкую свабодную фэдэрацыю народаў Эўропы. Не, матушкай Расеяй "разит", "славянские ручьями в русском море" /ведаеце, думка — з аднаго "патрыятычнага верша", на які Міцкевіч і Пушкін "разышліся ў палітычных поглядах"/, а далей — далей і МСФСР /"Мировая Социалистическая Федеративная Советская Республика", а можна — і лепш: "Маскальская Сацыялістычная".../

Нэўтралізм. — Пра бальшавікоў ані мур-мур, як замуравала, як вады ў рот набраўшы. — Стрыжы вушамі: дзесь у ваколіцы туляецца шэры...

Бачыў вас сьвет і пазнаваў пад рознымі апранашкамі. І ў "нацыянальных па форме" вышыванках Панамарэнкаў, і ў тогах вучоных "акадэмікаў" Прыляжаеваў, і ў белых халатах, і ў рызах парчовых патрыярхаў Сергіяў, Алексіяў, Нікалаеў Кіеўскіх і Галіцкіх, і ў чорных, срогіх сута-

нах ксяндзоў Арляманскіх — усюды можна вынюхаць і пазнаць.

І вы заўсёды пазнаяцё. Што-ж, вельмі прыемна. Ведаем нават, хто каго па чым: вы — нас — па нашых зубох, мы вас цяпер, калі зубы хаваеце — па вушох па даўгіх /не пакарацелі/ — і яшчэ — па пальцах. Па гадкіх пальцах, якімі ў чужым — роце цярплівасьць прабаваць — мацаць любіце.

Што-ж, цярплівасьць нашую можаце спрабаваць і яшчэ. Можаце, вы прабаваным сваім спосабам, перакруціць і ўсё тое, што мы тут казалі. Можаце перaадрасаваць нам усё, што на вас скіравана. Можаце /як гэта „культурна" ўмеюць рабіць часам і сябры — „меншавікі"/ удаць, быццам не разумееце аб чым ход, из-за чего сыр-бор разгорелся". Можаце таксама перакінуць усё прынцыповае й грамадзкае на „персанальныя спрэчкі", прафакстроціць крыху каля „няўдалага загалоўка", пры дапамозе прасьцейшых арытмэтычных апэрацыяў „расшыфраваць" прозьвішча, скрытыкаваць яго, як „неўдала абраны псэўдонім", адводзячы ўсім гэтым вочы ад быццам-бы зусім незаўважанае ці незразуметае існасьці справы. Можаце прыпісаць нам усе сваё цьверджаньні і тут-жа іх „абвергнуць". Можаце сабе „абвяргаць" і вярзьці, вярнуць із хворае на здаровую, колькі вам ахвоты. Бо ўсёроўна — што адсьпяваная, адвытая ваша — ваўчыная песьня, змоўкнуць давядзецца і ўсім падгалоскам, вольным і мімавольным. Усёроўна ўжо блізіцца зноў часіна новай вялікай аблавы, часіна „адлівaньня авечых сьлёзаў". Не цяпер, дык у чацьвер.

Да яе, да гэтае часіны — пацерпім і яшчэ. Цярплівасьці-ж нам — ня купляць. Толькі — калі часам зьнячэўку пальца якога не далічыцеся — не наракайце: свой чалавек, із свайго боку, добрую раду падаў:

— Не кладзеце — адкусіцца.

-:оОо:-